


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

10 лістапада 2000 года
№ 45 (290)
Цана ў розніцу 96 рублёў




## Навіны рэгіёна

### Злачынцы не ўстаноўленыя

МАЛАДЗЕЧНА. У канцы ліпеня невядомыя пашкодзілі 56 надмагільных пліт на старых гарадскіх могілках. «Крымінальная справа па злачынстве на могілках, што здарылася ўлетку, прыпыненая з–за немагчымасці ўстанавіць асобы злачынцаў», – гаворыць следчы ГРАУС **Пётр Варачкоў**.

Цяпер справа знаходзіцца на праверцы ў пракуратуры. Але "прыпыненая" не азначае, быццам ёй ніхто не займаецца. **П. Варачкоў** патлумачыў, што па справе не праводзяцца следчыя дзеянні, а толькі вышуковыя мерапрыемствы. Іх вядзе крымінальны вышук.

**Аддзел інфармацыі.**

### Грузавы аўтапарк адкрывае магазін

МАЛАДЗЕЧНА. Грузавы аўтапрк №2 будзе гандляваць харчовымі таварамі ў магазіне, які адкрыецца на ягонай жа тэрыторыі. Намеснік дырэктара АП №2 **Ігар Леановіч** гаворыць, што на гэты крок кіраўніцтва падштурхнулі даўгі нафтабазе за паліва. Цяпер яны складаюць 40 мільёнаў рублёў.

Праблема тут ва ўзаемных неплацяжах. Аўтапарку за перавозкі прадпрыемствы горада завінаваціліся 90 мільёнаў. Каб хутчэй аддаць паліўныя даўгі, аўтапарк у кошт аплаты будзе прымаць прадукты харчавання і рэалізоўваць іх у сваім магазіне.

**Аддзел інфармацыі.**

### У «Зубраня» прыехалі піянеры

МЯДЗЕЛ. У рэспубліканскім летніку "Зубраня" (ён і па сёння мае азначэнне "піянерскі") пачаўся пятнаццаты злёт рэспубліканскай піянерскай арганізацыі.

Сабралася тут 360 дзяцей і падлеткаў і 60 дарослых. Прыехалі нават піянеры з расійскага Ліпецка. Да адкрыцця злёту дэлегаты прабылі ў летніку каля паўтара тыдня: праводзілі заняткі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Аўтобуснікаў вобласць выручыла

МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні да пяцёркі аўтобусаў–гармонікаў, што прыбылі ў аўтапарк №2, дадаўся яшчэ адзін.

Грошы за аўтобусы ўзялі з абласнога транспартнага фонду. Ён фарміруецца ад транспартных збораў з прадпрыемстваў вобласці. Дапамаглі абласны і гарадскі выканаўчыя камітэты, аўтатранспартныя прадпрыемствы горада.

**Аддзел інфармацыі.**

### Месяц здаровай усмешкі

У прафілактычнай праграме Colgate і Беларускага грамадскага аб'яднання стаматалогаў удзел бралі, у асноўным, урачы–прыватнікі. Хаця Міністэрства аховы здароўя прапаноўвала зрабіць гэта ўсім. У рэгіёне адгукнуліся стаматолагі з Маладзечна, Смаргоні, к. п. Нарач.

– Адна з асноўных мэтаў акцыі – прафілактыка, кансультацыі насельніцтва, – гаворыць **Уладзімір Уклейкін** з Маладзечна. – Не сакрэт, што да стаматолага людзі ідуць, калі забаліць, а мы прапанавалі ўсім жадаючым магчымасць папярэдзіць захворванні. Адзначу, што бясплатная зубная паста цікавіла хіба 1–2 чалавек.

Натуральна, акцыя мела на ўвазе і рэкламныя мэты. Аднак відаць было асаблівую ўвагу, скіраванасць урачоў да дзяцей. Наш уласны карэспандэнт **Алесь Высоцкі** адзначае, што ў курортным пасёлку Нарач сярод наведвальнікаў прыватнага стаматолага **Валянціны Вешняковай** быў цэлы клас – 4 "А" Нарачанскай СШ №2.

**Аддзел інфармацыі.**

### Змяненні ў руху электрацягнікоў



**10 лістапада** па станцыі Маладзечна адмяняюцца электрычкі адпраўленнем на Мінск 10.58, 13.41, 14.35, прыбыццём у Маладзечна ў 10.47, 11.47, 13.49.



### Надвор'е на выхадныя

Субота, 11 лістапада

**Мінск**
-3 – 2°С (уначы)
-1 – 4°С (удзень)



**Вільня**
0°С (уначы)
2°С (удзень)



Нядзеля, 12 лістапада

**Мінск**
-1 – -8°С (уначы)
-5 – 2°С (удзень)



**Вільня**
-3°С (уначы)
1°С (удзень)



## «Антэну» ліквідуюць

**МАЛАДЗЕЧНА. "Антэна" – адна з трох прыватных фірмаў, што займаюцца ўстаноўкай і абслугоўваннем кабельнага тэлебачання, – перастала існаваць. Такі ж лёс чакае астатнія дзве. Кабельным тэлебачаннем цяпер будзе займацца дзяржава.**

У горадзе зарэгістраванае даччынае прадпрыемства ВА «Камунальнік» – «Маладзечанскія кабельныя сеткі». У яго склад увайшла «Антэна». У гарвыканкоме ўпэўненыя, што мэтай стварэння прадпрыемства з'яўляецца правядзенне адзінай палітыкі ў галіне кабельнага тэлебачання. У горадзе да гэтага часу існуюць розныя тарыфы на паслугі, фірмы рэтранслююць розныя каналы. А гэта, на думку першага намесніка старшыні гарвыканкома **Я. Ідэльчыка**, не зусім правільна. Да таго ж, трэба, каб вялі неабходную дакументацыю, устанаўлівалі і абслугоўвалі кабельнае тэлебачанне прафесіяналы.

Тыя гараджане, што карысталіся паслугамі «Антэны» будуць плаціць па іншаму рахунку. Наступным этапам стане ўрэгуляванне ўзаемаадносінаў з яшчэ адной прыватнай фірмай – "Шанс–ТВ".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

**Маладзечна яшчэ мае патрэбу ў тэлевізійных антэнах. На базары ўчора.**
Фота Юрыя Карпіцкага.

## Экспрэс–апытанне маладзечанцаў

# Чым займаліся 7 лістапада?



**Вольга Альфер, студэнтка Маскоўскага дзяржаўнага сацыяльнага ўніверсітэта:**

– Пісала курсавую работу па "Тэорыі сацыяльнай работы". Атрымалася, што гэты дзень для мяне стаў звычайным рабочым.



**Ніна Куніца, дырэктар сумеснага прадпрыемства:**

– Сустракаліся з сябрамі, успаміналі студэнцкія гады, дэманстрацыі. Па той залатой пары засталася настальгія.

Лічу, што 7 лістапада павінна застацца выхадным. Мы не павінны разбураць тое, за што змагаліся і што святкавалі нашыя бацькі і дзяды.



**Дзмітрый Альфер, вучань САШМ:**

– Спаў, гуляў, правадзіў сярод маладзечанцаў апытанне на тэму "Узаемаадносіны бацькоў і дзяцей".



**Алена Бабровіч, хатняя гаспадыня:**

– Першая палова дня прайшла пад знакам прыбірання ў кватэры пасля святкавання дня нараджэння дачкі. Потым занялася гатоўкай. Увечары адпачывала.

7 лістапада павінна быць выхадным днём. Калі буду працаваць, можна будзе адпачыць пасля святкаванняў наступных дзён нараджэння дачкі.



**Сняжана Бабровіч (апісанне дня дае аўтар фотаапытання):**

– Другі год свайго жыцця пачала з капрызаў. Потым "намотвала кругі" па кватэры. Дзённую прагулку сумясціла са сном на вуліцы. Увечары пазіравала для "РГ".



**Іна Гурэцкая, прадавец:**

– Увесь дзень была на рабоце. Для мяне гэты дзень не толькі гадавіна кастрычніцкай рэвалюцыі, але і дзень нараджэння маёй стрыечнай сястры Люды.

Трэба, каб гэты дзень застаўся выхадным, тады моладзь будзе ведаць, што гэта за свята.

**Фотаапытанне падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

# Новы рынак для «неграмадзянаў»

**МАЛАДЗЕЧНА. Заўтра на гарадскім стадыёне зноў адкрыецца рэчавы рынак. Цяпер там будуць гандляваць асобы, якія не з'яўляюцца грамадзянамі Беларусі.**

З падрабязнасцямі для чытачоў "РГ" першы намеснік старшыні гарвыканкома **Яфім Ідэльчык**:

– Існуючыя рынкі падабраліся да мяжы ў сэнсе наяўнасці свабодных гандлёвых месцаў. Больш прыкметна гэта ў летні перыяд, але праблему відаць і цяпер. Таму так ці інакш гораду трэба думаць пра дадатковыя месцы для рынкаў.

З іншага боку, неабходна шукаць даходы для рэалізацыі спартыўных праграм і праектаў, у тым ліку рэканструкцыі стадыёна і падтрымкі ФК "Маладзечна". Стадыён – гэта праверанае месца, там для размяшчэння рынку будуць створаныя ўсе ўмовы.

**– Куды пойдзе выручка ад арганізацыі гандлю?**

– За мінусам падаткаў яна будзе пералічвацца на рахунак спорткамітэта.

**– Колькі будзе каштаваць месца на новым рынку?**

– Дакладна не ведаю, але лічу, што па цане яно будзе ці крыху даражэйшае, ці такое ж, як на астатніх рынках.

**– На колькі месцаў, мяркуецца, разлічаны рынак на стадыёне?**

– На калгасным і рэчавым рынках замежныя грамадзяне арандуюць каля 100 месцаў. Усім яны будуць прадастаўленыя і на стадыёне.

**– Не было яшчэ скаргаў ад гандляроў–неграмадзянаў?**

– Да мяне прыходзілі 1–2 чалавекі. Яны прасіліся застацца на рэчавым рынку ў сілу спецыфікі іх тавараў (скураныя вырабы). Але мы жадаем дабіцца таго, каб замежная грамадзяне гандлявалі ў адным месцы. Гэта тлумачыцца яшчэ тым, што арганізацыя гандлю "неграмадзянаў" рэгулюецца іншымі нарматыўнымі актамі. У іх іншыя падаткі, цэнаўтварэнне і дакументы на дазвол гандляваць. Да таго мы створым роўныя ўмовы для здаровай канкурэнцыі. Гэта, на маю думку, будзе больш справядліва. Хаця ў далейшым жыццё ўнясе свае папраўкі.

**– Як доўга будзе працаваць трэці рынак?**

– Ізноў жа пакажа жыццё. Ніхто не збіраецца ствараць штучныя рэчы: калі рынак не будзе сябе акупляць, ён перастане існаваць. Лепш было б адкрыць рынак на стадыёне недзе ў маі, але ў той час мы да гэтага не былі падрыхтаваныя.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**У нас гандлююць людзі з розных краін.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 26 кастрычніка | 9 лістапада |
|---|---|---|
| Долар | 1054,00 руб. | **1074,00** руб. |
| Нямецкая марка | 451,14 руб. | **471,11** руб. |
| Літ | 263,48 руб. | **268,43** руб. |
| Расійскі рубель | 37,82 руб. | **38,64** руб. |
| Злоты | 225,53 руб. | **235,37** руб. |
| ЕЎРА | 882,36 руб. | **919,45** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1070 – 1085 руб. | **1090 – 1100** руб. |

Шаноўныя чытачы, па тэхнічных прычынах у мінулым нумары мы не памянялі курсы валют НБ РБ і «вулічныя» курсы ў Маладзечне. Прыносім свае прабачэнні за магчымыя нязручнасці.

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 01.11 | 08.11 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1580 | **1580** |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 5100 | **5100** |
| Сасіскі, 1 кг | 1680 | **1450** |
| Селядзец, 1 кг | 960 | **950** |
| Рыс, 1 кг | 370 | **390** |
| Грэчка, 1 кг | 500 | **480** |
| Цукар, 1 кг | 530 | **530** |
| Алей, 1 л | 580 | **650** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 590 | **580** |
| Маянэз, 250 г | 230 | **230** |
| Кава "Пеле", 100 г | 1000 | **1000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 370 | **360** |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 340 | **330** |
| Лімоны, 1 кг | 980 | **990** |
| Апельсіны, 1 кг | 690 | **690** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 160 | **150** |
| Капуста, 1 кг | 50 | **60** |
| Кавун, 1 кг | 180 | **180** |
| Вінаград, 1 кг | 850 | **700** |
| Хурма, 1 кг | | **1400** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 800 | **700** |
| Масла, 1 кг | 1800 | **1700** |
| Тварог, 1 кг | 600 | **600** |
| Малако, 1,5 л | 280 | **300** |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1000 | **1000** |
| Бульба, вялікае вядро | 450 | **600** |
| Морква, 1 кг | 120 | **130** |
| Яблыкі, 1 кг | 250 | **300** |

■ **У СВЕТ НА ЗАРОБКІ**

## Едуць, каб зарабіць

**Прачытаў у адным з нядаўніх нумароў "РГ" разважанні Аляксандра Наркевіча "Старыя праблемы на новым вітку" пра ўладкаванне беларусаў на работу за мяжу і хачу таксама выказацца.**

Я ведаю і чуў ад сваіх бацькоў і знаёмых, якія ездзілі за заробкі у балтыйскія краіны, на Захад і за акіян. Ведаю, што яны там мелі. Паўтараць публікацыю не буду, а толькі пацверджу, што так і было. Так, багацейшымі сябе лічылі "амэрыканцы", тыя, хто ездзіў зарабляць за акіян. Але няблага пачуваліся і ездакі па кантрактах з Польшчы ў Заходнюю Еўропу. За некалькі гадкоў зараблялі на тое, каб купіць сабе маёнтак альбо добры кавалак зямлі. Так было...

А калі ўвосень 1939 года пачалася Другая сусветная вайна, а ў Заходнюю Беларусь прыйшла савецкая ўлада, усё пайшло прахам...

Камуністычная жалезная заслона абрынулася ў сярэдзіне 80-х. "Перестройка" дала магчымасць новай хвалі беларусаў шукаць працу за дастойную аплату за мяжой. Таму і з"язджаюць з родных мясцін. Бо шмат хто хоча атрымліваць за сваю працу тое, што ён зарабіў.

**Віктар КАПУЦКІ, Маладзечна.**

■ **КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА**

## Непаўналетнія бавяць час на вакзале

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад пачатку года на ўчастку абслугоўвання АУС на транспарце зарэгістравана 22 няшчасныя выпадкі на аб'ектах чыгуначнага транспарту, 14 з якіх скончыліся лятальна. 4 чалавекі выбралі такую дарогу ў якасці сродка падвядзення рахункаў з жыццём.**

Галоўнай прычынай траўматызму з'яўляецца далейшая алкагалізацыя грамадства, парушэнне элементарных правілаў паводзін на чыгуначным транспарце. У гэтым годзе да адміністрацыйнай адказнасці за дадзенае правапарушэнне прыцягнута 1258 чалавек, у 1999 годзе – 1157 чалавек, не лічачы асоб, пакараных работнікамі ваенізаванай аховы станцыі Маладзечна. Аднак многія дзеля "эканоміі часу" (ці з-за лішніх выпітых "ста грамаў") рызыкуюць сваім здароўем, жыццём.

У апошні час пачасціліся выпадкі крадзяжоў рэчаў, грошай і іншых каштоўнасцяў у пасажыраў. У многіх выпадках самі пацярпелыя ствараюць спрыяльную глебу для прахадзімцаў. Гэта распіццё спіртных напіткаў, азартныя гульні, пакіданне рэчаў без нагляду або пад наглядам незнаёмых людзей. Сумкі, чамаданы і іншыя рэчы, што знаходзяцца пры сабе, патрэбна ўкладваць пад сядзенні, у іншыя спецыяльна адведзеныя месцы. Не стварайце зручнасцяў у "рабоце" злачынцы.

Балючым пытаннем прафілактыкі транспартных парушэнняў з'яўляюцца правапарушэнні, якія здзяйсняюцца непаўналетнімі. У гэтым годзе затрымана 26 непаўналетніх, зарэгістравана 25 фактаў біцця шкла ў цягніках на ўчастку, які абслугоўвае Маладзечанскі АУСТ, чыгунцы прычынены ўрон на 334 тысячы рублёў.



Фота IREX/ProMedia.

**Няма лепшага занятку, чым гульня ў карты.**

Па-ранейшым, складваецца дрэнная сітуацыя ў сферы п'янства непаўналетніх і выяўлена ў гэтым годзе 65 фактаў ужывання непаўналетнімі спіртных напіткаў. У апошні час вакзал зрабіўся месцам масавага збору і баўлення часу непаўналетніх, што прыводзіць да абвастрэння стану грамадскага парадку. Таму напярэдадні восеньскіх канікулаў хацеў бы папярэдзіць бацькоў пра тое, што існуе абмежаванне, устаноўленае Мінаблвыканкомам, на з'яўленне асоб да 18 год у канікулярны час да 23 гадзін. За парушэнне дадзеных нормаў падлеткі і іх бацькі будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

**Юрый КРАЎЧАНКА, старшы інспектар Маладзечанскага АУСТ.**

■ **«РГ»-СТАТЫСТЫКА**

## Беспрацоўе ў рэгіёне на 1 лістапада

| | Колькасць беспрацоўных на 1 лістапада | Узровень беспрацоўя |
|---|---|---|
| Маладзечна | 1260 (+19) чал. | 2,1% |
| Маладзечанскі раён | 205 (+10) чал. | 0,8% |
| Астравецкі раён | 314 (-6) чал. | 2,1% |
| Ашмянскі раён | 145 (+3) чал. | 0,8% |
| Валожынскі раён | 171 (+2) чал. | 0,9% |
| Вілейскі раён | 469 (-13) чал. | 1,5% |
| Мядзельскі раён | 217 (+3) чал. | 1,2% |
| Смаргонскі раён | 1180 (-98) чал. | 3,5% |
| **Усяго па рэгіёне:** | **3961 (-80) чал.** | |

У дужках паказана змяненне колькасці ў параўнанні з публікацыяй месячнай даўнасці.

**Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

## Нічога, акрамя задавальнення

**МАЛАДЗЕЧНА. Упраўленне па эканоміцы падвяло папярэднія вынікі эканамічнага спаборніцтва. Акрамя маральнага задавальнення, лідэры нічога не атрымалі. Начальнік упраўлення па эканоміцы Святлана Галубовіч гаворыць, што прэміраванне лепшых па выніках года будзе залежаць ад магчымасцяў бюджэту.**

Сярод прадпрыемстваў 1 групы (больш за 100 работнікаў) на першым месцы ўнітарнае прадпрыемства "ЭНВА" аб'яднання БелТіЗ. У 2 групе (да 100 чалавек) лідэр Мінскі вытворчы камбінат ВА «Белпраммастацтва». Сярод прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання гарвыканкам адзначыў арэнднае прадпрыемства «Рамбыттэхніка» і ВКФ «Рытуал».

**Аддзел інфармацыі.**

■ **ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ**

## У Буцлаве не будзе хаўруснай крамы

**Буцлаў, Вілейскага пав. Віленскай губ.**

Гэтымі днямі прыйшоў атказ ад губэрнатара на просьбу залажыць тут хаўрусную краму. На прашэньні падпісалося каля 18 чалавек, у гэтым ліку аказалася тры хлопцы "несовершэннолетніе", а з гэтых трох аднаму ўжо акурат цяпер скончыўся 21 год. Губэрнатар за гэта не пазволіў аткрыць хаўрусную краму!

**Першая Беларуская Газэта з Рысункамі "Наша Ніва", №44-45 ад 5 лістапада 1910 г.**

